Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка

№6 спецвыпуск

# ПРЭЗУМПЦЫЯ

Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь

# Спецыяльны выпуск



## Алесь Бяляцкі за кратамі

**Чацвёртага жніўня супрацоўнікі Дэпартамэнту фінансавых расьследаваньняў Камітэту дзяржкантролю затрымалі кіраўніка праваабарончага цэнтру “Вясна”**

## Алеся Бяляцкага

**На кватэры і леціўчы праваабаронцы , а таксама ў офісе арганізацыі прайшліператрусы.**

*Алесь Бяляцкі, вядомы праваабаронца, старшыня Праваабарончага цэнтру “Вясна”, актыўны змагар за незалежнасць Беларусі, чалавек, які адстойвае ідэі свабоды і справядлівасці ў Нашай Краіне, літаратар і дысідэнт .*

## Алесю Бяляцкаму прад’явілі абвінавачаньне



12 жніўня, у межах крымінальнай справы, узбуджанай па ч.2 арт. 243 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь - “утойваньне прыбыткаў у асабліва буйным памеры” - старшыні Праваабарончага цэнтру “Вясна”, віцэ-прэзідэнту FIDH Алесю Бяляцкаму афіцыйна прад’яўлена абвінавачаньне.

Да 14 жніўня будзе дзейнічаць ранейшая мера стрыманьня ў выглядзе ўзяцьця пад варту. Пазьней сьледства прыме рашэньне альбо аб працягу дадзенай меры стрыманьня, альбо аб зьмене яе на іншую.

Алесь Бяляцкі быў затрыманы 4 жніўня. У той самы дзень на офісе “Вясны” і на прыватнай кватэры праваабаронцы прыйшлі вобшукі. Санкцыя ў межах артыкула, які інкрымінуецца Алесю Бяляцкаму, прадугледжвае пазбаўленне волі на тэрмін да сямі гадоў з канфіскацыяй маёмасці.

## Пікеты ў абарону Алеся Бяляцкага заяўлены ў 17 гарадах Беларусі

Праваабаронцы і грамадскія актывісты з розных рэгіёнаў Беларусі падалі ў мясцовыя выканкамы заяўкі на пікеты з мэтай інфармавання грамадскасці пра крымінальны пераслед старшыні ПЦ “Вясна” і віцэ-прэзідэнта Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека Алеся Бяляцкага. Большасць пікетаў запланавана на 22-ое жніўня, паведамляе Праваабарончы Цэнтр "Вясна".



Актывісты праваабарончага руху збіраюцца выказаць сваю пазіцыю датычна арышту Алеся Бяляцкага, аднак маюць сумневы наконт таго, што гарадскія ўлады дазволяць заяўленыя публічныя мерапрыемствы. За апошнія тры-чатыры гады на пераважную большасць пікетаў у рэгіёнах улады дазволу не давалі.

Рэгіянальныя праваабаронцы таксама распачалі збор подпісаў пад паручальніцтвамі за Алеся Бяляцкага, што будуць дасланы ў пракуратуру горада Мінска.

## Гарадзенцы, як і ўвесь цывілізаваны свет салідарызуюцца з Алесем Бяляцкім

Пасля арышту вядомага праваабаронцы, літаратара і дысідэнта, кіраўніка Праваабарончага Цэнтру Вясна Алеся Бяляцкага, у гарадзенскія грамадскія арганізацыі і палітычныя структуры сталі тэлефанаваць і прыходзіць жыхары горада на Нёманам. Людзі ведаюць дзейнасць Праваабарончага Цэнтру Вясна і змаганне самога яго лідэра і стваральніка гэтай арганізацыі Алеся Бяляцкага.



Не аднойчы жыхары Гародні наведвалі праваабаронцаў, якія дапамагалі ім вырашаць пытанні з розных сфер жыцця. Зараз гарадзенцы прыходзяць з адным пытаннем – чым яны асабіста могуць дапамагчы арыштаванаму праваабаронцу, і праяўляюць з ім поўную салідарнасць.

З Алесем Бяляцкім зараз салідарызуецца ўвесь цывілізаваны свет. Немажліва пералічыць тую колькасць вядомых і шаноўных арганізацый ды постацяў, якія імгненна выступілі з рашучым пратэстам і жорсткім патрабаваннем вызваліць праваабаронцу. Гэта і безліч праваабарончых арганізацыяў, амбасадаў замежных краін, палітычных партый, грамадскіх аб’яднанняў, знакамітых людзей, сярод якіх не толькі былыя і дзеючыя палітыкі, літаратары, журналісты, але нават і лаўрэаты Нобелеўскай прэміі, на якую Алеся Бяляцкага вылучалі двойчы за яго актыўную і несупынную праваабарончую дзейнасць. За дзейнасць, якая ў кожным грамадстве мусіць вітацца і падтрымлівацца.

# Падпішыце паручальніцтва за Алеся Бяляцкага!

## *Зварот Праваабарончага цэнтру “Вясна”*

4 жніўня 2011 г. у межах крымінальнай справы, узбуджанай па ч.2 арт. 243 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь - “утойванне прыбыткаў у асабліва буйным памеры” - быў затрыманы старшыня Праваабарончага цэнтру “Вясна”, віцэ-прэзідэнт FIDH Алесь Бяляцкі. Санкцыя ў межах артыкула, які яму інкрымінуецца, прадугледжвае пазбаўленне волі на тэрмін да сямі гадоў з канфіскацыяй маёмасці.

Шаноўнае спадарства, “Вясне” патрэбна Ваша салідарнасць!

Мы распачынаем кампанію па зборы паручальніцтваў за Алеся Бяляцкага ад усіх грамадзянаў. Паручальніцтвы мы будзем перадаваць у органы пракуратуры Беларусі. Гэтая працэдура прадугледжана артыкулам 121 Крымінальна-працэсуальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

Юрыдычнае абгрунтаванне

Крымінальна-працэсуальны кодэкс Рэспублікі Беларусь у сваім артыкуле 121 адной з мераў стрымання прадугледжвае паручальніцтва. Дадзеная мера заключаецца ў тым, што не менш за двух грамадзянаў Беларусі выступаюць з хадайніцтвам на імя органаў пракуратуры з тым, каб да асобаў, якія да суду знаходзяцца пад вартай, была прыменена мера стрымання - знаходжанне на свабодзе (падпіска аб нявыездзе). У выпадку, калі асобы, за якіх прынята паручальніцтва, парушаюць ўмовы, то яны могуць быць зноў узятыя пад варту, а таксама ў дачыненні да тых, хто выступіў з паручальніцтвам, можа быць ужытае пакаранне ў выглядзе штрафу. Сам факт наяўнасці паручальніцтваў аўтаматычна не цягне за сабой змены меры стрымання, але з’яўляецца вельмі важкай умовай для выхаду на свабоду асобаў, а таксама дэманструе следству і суду нашую салідарнасць. Грамадзяне Беларусі павінны персанальна ўласнаручна запоўніць бланк паручальніцтва.

На падставе Вашых паручальніцтваў пракуратура можа вызваліць з-пад варты Алеся Бяляцкага.

Гэтую кампанію мы праводзім разам з нашымі партнерамі - беларускімі праваабаронцамі, а таксама Міжнароднай федэрацыяй за правы чалавека (FIDH). Паручальніцтвы будуць збірацца ва ўсім свеце, і мы перакананыя, што шмат хто з сусветна вядомых асобаў падпішуцца пад гэтай заявай.

Мы ставім перад сабой задачу ў самы бліжэйшы час сабраць не менш за тысячу паручальніцтваў толькі ў Беларусі.

ПЦ “Вясна” шмат год бараніў кожнага грамадзяніна, які трапляў у бяду, калі дзяржава парушала яго правы, грэбавала прынцыпамі маралі і законнасці. Мы былі разам з Вамі ў судах, мы рабілі ўсё, каб палітычныя вязні не заставаліся сам-насам у турмах. За гады сваёй працы мы дапамаглі тысячам людзей, пішучы скаргі, звароты і заявы. Мы рабілі ўсё магчымае, каб і ў замежжы ведалі пра сітуацыю ў Беларусі.

Абяцаем, што як бы далей ні разгортваліся падзеі, мы будзем працягваць сваю дзейнасць па абароне правоў чалавека.

Але зараз мы просім у Вас дапамогі.

Падпісацца пад паручальніцтвам можна тут:

Праваабарончы цэнтр “Вясна” – г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 78а-48 (тэл:. (017) 331 08 44)

Беларускі Хельсінкскі Камітэт - г. Мінск, вул. К.Лібкнехта, 68-1201 (тэл:. (017) 222 48 00)

Беларуская асацыяцыя журналістаў – г. Мінск, вул. Камсамольская, 7-32 (тэл:. (017) 203 63 66)

Файлы Узор паручальніцтва за Алеся Бяляцкага (0.01 Mb) http://spring96.org/files/misc/paruchalnictva-be.docx

# Хроніка правапарушэнняў

### ((( Гарадзеншчына, ліпень )))

3 ліпеня. У Гародні супрацоўнікі сілавых структураў зноў затрымалі актывіста непрызнанага ўладамі Саюзу палякаў у Беларусі, рэдактара часопіса «Magazyn Polski» Ігара Банцара. Яго затрымалі з раніцы каля пад'езду свайго дому, калі ён вяртаўся дамоў з чыгуначнага вакзалу.

3 ліпеня. Увечары гарадзенскія ўлады працягнулі паляванне на журналістаў. Была затрыманая карэспандэнтка Радыё Рацыя Гражына Шалкевіч, якая была ў цэнтры гораду пад час маўклівай грамадзянскай акцыі. Затрыманая таксама была група журналістаў тэлеканалу Белсат. На цэнтральнай Савецкай плошчы Гародні зберлася каля тысячы чалавек. Многіх з іх беспадстаўна затрымлівалі людзі ў цывільным, якія не прадстаўляліся. У затрыманых забіралі мабільнікі, каб яны не маглі тэлефанаваць. Быў затрыманы сярод іншых і гарадзенскі паэт, журналіст, сябра ПЭНклубу Юры Гумянюк. Усяго было затрымана каля 80 чалавек.

4 ліпеня. Ігар Банцар пакараны адміністрацыйным арыштам на 10 сутак, ён аб'явіў галадоўку. На выязным паседжанні суду публіцыст Юры Гумянюк быў засуджаны да 12 сутак адміністрацыйнага арышту, іншы журналіст Алесь Дзянісаў атрымаў 10 сутак арышту. У Ленінскім судзе Гародні разглядаліся пратаколы, складзеныя яшчэ на 10 чалавек. Суддзя Дзмітрый Кедаль прысудзіў 30 базавых велічынь штрафу ўдзельніку акцыі Максіму Белагубаву. Іншая суддзя з пяці разглядаў таксама прысудзіла адну кару – Міхаіл Вараб'ёў аштрафаваны на 980 тысяч беларускіх рублёў.

5 ліпеня ў судзе Ленінскага раёну Гародні скончыўся разгляд крымінальнай справы публіцыста Андрэя Пачобута, якога вінавацілі у абразе прэзідэнта і паклёпе на яго. Андрэй Пачобут выпушчаны на волю! У выніку выраку суду абвінавачванні па артыкуле 368 - частка 1 (абраза прэзідэнта) былі зня- тыя. Па артыкуле 367, частка 1 (паклёп на прэзыдэнта) Андрэй Пачобут засуджаны на тры гады з адтэрміноўкай на два гады. На практыцы гэта азначае, што калі цягам гэтых двух гадоў журналіст



зноў "парушыць" згаданы артыкул Крымінальнага кодэксу, то ён можа быць зняволены ў турму. На абвешчанне прысуду пусцілі толькі 7 чалавек, пераважна сваякоў і блізкіх Пачобута, уваход журналістам быў катэгарычна забаронены. Каля трохсот чалавек, якія зберліся на ганку і каля суду, калі выйшаў Андрэй Пачобут, гучнымі воплескамі віталі журналіста і дастаткова сенсацыйнае рашэнне суду. Нагадаем, што пракурор патрабаваў для журналіста 3 гады турэмнага зняволення. Адзначым таксама, што Пачобут адседзеў у гарадзенскай турме, куды ён быў зняволены 6 красавіка, цэлых тры месяцы.

6 ліпеня ў Ленінскім раённым судзе Гародні працягваліся суды над удзельнікамі мірнай маўклівай акцыі "Рэвалюцыя ў сацыяльных сетках", якая адбывалася 3 ліпеня. Прадстаўнікі КДБ сваім парадкам выклікалі затрыманых у той дзень на "прафілактычныя гутаркі" і палохалі рэпрэсіямі.

Акцыя маўклівага пратэсту ў Гародні сабрала ў цэнтры гораду каля тысячы чалавек, больш за 100 з якіх былі затрыманыя супрацоўнікамі міліцыі. У дачыненні да людзей ужывалася жорсткая фізічная сіла, дзесяткі чалавек атрымалі пашкоджанні і павінны былі звяртацца па дапамогу да медыкаў. Да позняга вечару ў міліцэйскіх пастарунках праходзілі разбіральніцтвы і складаліся адміністрацыйныя пратаколы.

7 ліпеня. Актывіста кампаніі "Гавары праўду" Зміцера Бандарчука, якога затрымалі пад час маўклівай акцыі пратэсту, не адпусцілі пасля складання пратаколу, а завезлі ў ізалятар часовага ўтрымання па вуліцы Гая. ¨н быў засуджаны да 10 сутак адміністрацыйнага арышту.

Ліпень. Ужо пакараных за перакрыццё дарогі ў Брузгах 12-га чэрвеня людзей пачалі наноў выклікаць. 36 чалавек 20-га ліпеня выклікаюцца ў суд. Рэч у тым, што абласная пракуратура і мытня запатрабавалі, каб удзельнікі несанкцыянаванай акцыі на мяжы аплацілі страты, якія мытня панесла за затрымку на тры гадзіны працы на мяжы, а таксама патрабуецца, каб аўтамабілісты аплацілі расходы, звязаныя з выклікам АМАПу і спецназу.

11 ліпеня. Затрыманага 6 ліпеня на вуліцы ў Гародні пад час выканання прафесійных абавязкаў журналіста "Радыё Свабода" Міхала Карневіча суд Ленінскага раёну (суддзя Дзмітрый Кедаль) засудзіў да штрафу ў 30 базавых велічынь - 1 мільён пяцьдзесят тысяч рублёў. Галоўны сведка з боку міліцыі, які затрымліваў журналіста, так і не з'явіўся ў судзе.

13 ліпеня. У Гародні працягваліся суды над затрыманымі 3 і 6 ліпеня. Сярод іншых суддзя Ленінскага раённага суду Дзмітрый Кедаль засудзіў да штрафу журналістку Гражыну Шалкевіч – 30 базавых велічынь.

16 ліпеня. Увечары з ізалятара

# Хроніка правапарушэнняў

*((( Гарадзеншчына, ліпень )))*

часовага ўтрымання на вуліцы Гая ў Гародні вызваліўся адзін з ініцыятараў стварэння грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду» і сябра Нацыянальнага камітэту АГП Зміцер Бандарчук. Актывіст быў затрыманы 6 ліпеня і прысуджаны да 10 сутак адміністрацыйнага арышту.

20 ліпеня ў Гародні пачаўся судовы працэс над удзельнікамі стыхійнага пратэсту ў Брузгах, які адбыўся яшчэ 12 чэрвеня. З 36 удзельнікаў таго пратэсту, якія раней ужо былі засуджаныя да буйных грашовых штрафаў, Гарадзенская рэгіянальная мытня і мясцовая міліцыя хочуць агулам спагнаць дадаткова яшчэ 10 мільёнаў рублёў.

20 ліпеня. У Ваўкавыску пад час акцыі маўклівага пратэсту зноў затрыманы грамадска-палітычны актывіст Віталь Гуляк. ¨н быў затрыманы разам з сябрам і паспеў паведаміць пра гэта праз тэлефон. Пасля пісьмовых тлумачэнняў абодвух хлопцаў адпусцілі.

# Пытанне маральнага выбару

Чалавек бездапаможны, калі патрапляе ў лапы сістэмы. А кожная сістэма імкнецца выключна да ўласнага самазахавання. Лёс канкрэтнага чалавека яе не тое што зусім не цікавіць, але цікавіць крыху ў іншым ракурсе, чым самога чалавека.

Гэта зразумелі па ўсім цывілізаваным свеце. Менавіта таму, там, дзе шануюць жыццё, гонар, свабоду, меркаванне і правы чалавека, на заканадаўчым роўні абмяжоўваецца ўсёдазволенасць сістэмы. У сістэму, якая па прыродзе сваёй ёсць абыякавай да лёсу і жыцця асобнага чалавека, стараюцца пабольш увесці людскасці, пабольш жывога чалавечага духу.

Сістэму ў цывілізаваным грамадстве стараюцца разбавіць людзьмі з па-за сістэмы. Гэта і суд прысяжных, дзе дванаццаць чалавек з народу мусяць паглядзець на сітуацыю не толькі вачамі ахвяры, але і злачынцы, гэта і меркаванне грамадзкасці, якое асвятляе свабодная прэса, гэта і кантроль над сістэмай з боку кожнага чалавека праз розныя дэмакратычныя інстытуты – свабодныя выбары, адкрытасць і галоснасць працэсаў, даступнасць інфармацыі, права абароны для кожнага.

У сістэме таксама працуюць людзі. Гэта звычайныя людзі, добрыя і кепскія, мяккія і жорсткія, такія як і па-за ёй. Але гэта людзі сістэмы, і яны падуплыўныя ёй. Сістэма іх душыць, прымушае, патрабуе. Бо плаціць ім заробкі і надзяляе ільготамі ды ўладай. І яны стараюцца ёй дагадзіць.

Але ж кожны можа зрабіць памылку. А той-сёй, можа яе зрабіць і наўмысна. Людзі па абодва бакі ад сістэмы розныя, і могуць розныя рэчы, у тым ліну і нядобрыя, рабіць наўмысна.

Таму тыя народы, якія ў сваім развіцці дасягнулі пэўнага разумення справядлівасці для кожнага, максімальна абмяжоўваюць уплыў сістэмы на чалавека. І перш за ўсё заканадаўчым чынам. Яны, прыкладам, не дазваляюць сістэме забіваць людзей. Прычын на тое знайшлося вельмі шмат. І не толькі звязаных з бязлітаснасцю сістэмы. Прычыны розныя і лагічна даказаныя. Але ў Еўропе ёсць краіна, якая аддае ў лапы сістэмы чалавечае жыццё, і надалей працягвае практыкаваць смяротнае пакаранне.

У Беларусі зноў расстралялі двух чалавек. Двух гарадзенцаў, якіх наша сістэма прызнала вінаватымі ў забойстве. Арганізацыя Аб'яднаных Нацый ужо заявіла 27-га ліпеня, што Беларусь парушыла міжнародныя абавязацельствы. І што ў Мінск была накіраваная просьба пра забеспячэнне часовых мер абароны, каб не дапусціць непапраўнай памылкі да асобаў, да якіх нібыта прымяняліся не зусім карэктныя метады дазнання.

Беларускі бок лічыць прэтэнзіі з боку ААН надуманымі. Зрэшты, чаго было чакаць з абодвух бакоў. Ясна было, што скажа ААН. І яшчэ больш прадказальнымі былі дзеянні беларускага МЗС. Справа зараз не ў іх. Справа ў тым, што не толькі не кожны беларус, але нават мала які гарадзенец чуў пра гэты расстрэл. Як і пра многія ранейшыя. Афіцыйная прэса, дзяржаўныя радыё і тэлебачанне не асабліва спяшаюцца падаваць гэты матэрыял на першыя палосы газет і ў пачатку галоўных выпускаў тэле і радыё навін. Хоць падзея ж не шэраговая. Наша дзяржава расстраляла нашых грамадзянаў. Хтосьці вёў следства, іншыя запрошвалі кару, трэція выносілі прысуд. А нехта і выконваў яго. Пра гэта хіба варта пагаварыць. Выслухаць тых, хто за смяротную кару, і тых, хто супраць яе ў прынцыпе.

Але ж не. Усё ціха. Сістэма ўжо ў такой стадыі ўсёдазволенасці і манаполіі на праўду, што не жадае, каб нехта абмяркоўваў яе дзеянні. Тым больш, каб ставіў іх пад сумнеў. І ёй ужо не важна, дапускаем мы мажлівасць судовай і следчай памылкі ці не. І ўвогуле, ці верым мы следству, суду, пракуратуры. І ці верым мы сістэме. Хоць усе ведаюць, што адсутнасць веры рана або позна прыводзіць да поўнага недаверу.

А што тычыцца смяротнага пакарання, то ў 21-м стагоддзі ў Еўропе гэтая праблема ўжо даўно не ў спісе пытанняў, якія там вырашае сістэма. Бо гэта пытанне сумлення, маральнага цяжару і адказнасці ўсяго грамадства. І еўрапейскае грамадства ўжо канчаткова выказалася на гэтую тэму.

***Віктар Сазонаў***

# За права на абарону

Арышт кіраўніка праваабарончага цэнтру "Вясна" не стаў нечаканасцю для людзей, якія ведаюць і разумеюць сітуацыю цяперашняй Беларусі. Улады, брутальна і паслядоўна зачысціўшы палітычную прастору, незалежныя мас-медыі, узяліся зараз за адвакатаў і праваабаронцаў. Мэта зразумелая – пакінуць людзей, якія пераследуюцца паводле палітычных матываў, без належнай прававой, маральнай і матэрыяльнай падтрымкі. Асоба Алеся Бяляцкага у гэтым сэнсе знакавая. ¨н кіраўнік не толькі найбольш развітай і дзейснай грамадскай праваабарончай структуры Беларусі, але і віцэ-прэзідэнт міжнароднай федэрацыі правоў чалавека. Відавочна, што кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь гэтым дэманстратыўным крокам-арыштам яшчэ раз выразна паказала, што яно мае цвёрды намер ігнараваць усе звароты, заклікі і патрабаванні еўрапейскіх, амерыканскіх і іншых міжнародных структур.



Паводле распачатай крымінальнай справы за нібыта "утойванне прыбыткаў у асабліва буйным памеры" Алесю Бяляцкаму зараз пагражае да сямі гадоў турэмнага зняволення з канфіскацыяй маёмасці. Артыкул дастаткова суровы і канкрэтная крымінальная справа можа адмоўна адбіцца на лёсе не толькі лідара праваабарончага руху, але і на сітуацыі дзесяткаў палітычных зняволеных, соцень і нават тысяч рэпрэсаваных праз іншыя формы адміністрацыйнага ціску грамадзянаў Беларусі. Ні для каго ні сакрэт, што апошнія пятнаццаць гадоў цэнтр "Вясна" праз сваіх прадстаўнікоў здзяйсняла прававую дапамогу ў розныя спосабы для мноства людзей. За што фактычна і была скасавана афіцыйная рэгістрацыя гэтай грамадскай арганізацыі. Пазнейшыя спробы наноў зарэгістраваць арганізацыю ў міністэрстве юстыцыі наткнуліся на прадказальныя адмовы.

Алесь Бяляцкі – адзін з першых беларускіх адраджэнцаў васьмідзесятых гадоў, адным з першых зазнаў і палітычны пераслед у форме ціску і адміністрацыйнага зняволення. Пасля чаго разам з аднадумцамі і паплечнікамі стварыў дзейсную і эфектыўную арганізацыю, якая выразна сцвердзіла права грамадзян на абарону. На абарону ад беззаконня ўладаў, на абарону ад рэпрэсій з боку сілавых структур, на абарону ад свавольства чыноўнікаў, на абарону ад карнай машыны дзяржавы. Зараз гэтае права ў беларусаў забіраюць – у адвакатаў забіраюць ліцэнзіі, праваабаронцаў запалохваюць і садзяць у турму. І ўсё для таго, каб пакінуць чалавека сам насам з цынічнай дзяржаўнай машынай ціску.

Сама ганебнае, што ўся гэтая гісторыя з крымінальнай справай і арыштам Алеся Бяляцкага вынікла з палітыкі суседняй дзяржавы. Дэмакратычная Летува, якая сама не так даўно вызвалілася ад савецкага мінулага, праз сваё міністэрства юстыцыі выдала ўладам Беларусі ўсе грашовыя рахункі беларускіх грамадзянаў. У тым ліку і рахунак Бяляцкага, на які пералічваліся грошы на прававую абарону пацярпелым. Вось такая "салідарнасць" краіны Еўразвязу з беларускімі дысідэнтамі і прадстаўнікамі дэмакратычнай супольнасці. Няўжо за такую дзяржаву з сталіцай у Вільні змагаўся ўжо легендарны "Саюдзіс", іншыя літоўскія дзеячы, якія імкнуліся вызваліцца з пад прыгнёту Масквы? Канешне, не! Але на месца змагароў і рамантыкаў, якія расчысцілі дарогу да вольнасці і дэмакратыі, прыйшлі цынікі і прагматыкі, якіх можна купляць гуртам і ў розніцу і якія самы пры нагодзе гатовы прадаць усіх і усё. Таму і чулі мы неаднаразова з вуснаў першай дамы суседняй дзяржавы словы наўпроставай ці крыху закамуфляванай падтрымкі таму курсу, які ўкараняецца зараз у Беларусі. Таму і здарылася такая "памылка" міністэрства юстыцыі Летувы. Можна дадаць яшчэ, што за незалежнасць Летувы змагаліся і беларусы, якія дваццаць гадоў таму ў крытычны момант, калі Крэмль выставіў у Вільні танкі былі побач з абаронцамі тэлецэнтру і сярод іх. А лозунг "за нашу і вашу волю" актуальны дагэтуль.

Зараз у летувіскіх палітычных колах пачалася вострая дыскусія датычная гэтай ганебнай сітуацыі, павінна прайсці адмысловае паседжанне парламенту. У Беларусі ж ужо пайшла грамадская кампанія салідарнасці ў падтрымку Алеся Бяляцкага. Права на абарону – гэта святое права.

*Уладзімір Хільмановіч*

# П о с т а ц ь

***У свой час, яшчэ юнаком, пачуў неяк ад пажылога чалавека адно цікавае параўнанне. Тады беларускія маладыя гісторыкі і літаратары спрачаліся з польскімі пра тое, чыіх генаў больш у Адама Міцкевіча, польскіх, ці беларускіх. І тады той пажылы чалавек умяшаўся ды сказаў словы, якія запомніліся на ўсё жыццё:***

***– Не пра тое спрачаецеся і не пра тое размаўляеце, – усміхнуўся ён. – Лепш пагаварыце не пра гэта, чыя постаць Міцкевіч, а пра тое, якая яна. І што з яе не грэх і прыклад узяць і тым, і другім. Бо адны з вас кажуць: “Наш Міцкевіч”, і другія: “Не, Міцкевіч наш”. Усе сабе хочуць забраць. А падумайце, чаму кожны хоча яго прысвоіць? І лепш самі паспрабуйце такімі постацямі стаць, каб пра вас хоць нехта сказаў: “Наш”. Бо вось, прыкладам пра Дзяржынскага ўсе кажуць “¨н не наш, ваш ён”. А другія: “Не, ён ваш”. Ніхто сабе яго не хоча. Усе адракаюцца. А Міцкевіча кожны хоча забраць сабе.***



Успомнілася тая размова акурат тады, калі затрымалі вядомага беларускага праваабаронцу, кіраўніка Праваабарончага Цэнтру “Вясна”, віцэ-прэзідэнта FIDH, літаратара і дысідэнта Алеся Бяляцкага. Бо гэты чалавек ад маладосці і ажно па сённяшні дзень жыве так, што кожны, хто праяўляе з ім салідарнасць гаворыць пра яго выключна з гонарам за сваю нацыю і за свой народ. Гаворыць пра яго як пра сапраўдную постаць.

Там, за мяжой зараз стараюцца разабрацца ў тым, хто вінаваты ў выдачы беларускаму боку дакументаў, з-за якіх стаў мажлівым той пераслед. І ніхто нават і не збіраецца апраўдвацца за свае дзеянні. Не. Усе просяць прабачэння і сцвярджаюць, што зробяць усё, каб больш такога не паўтарылася.

І гэта ўсё таму, што ўсім сваім жыццём Алесь Бяляцкі паказваў і паказвае зараз, як трэба жыць і за што змагацца. Увесь час ён быў і ёсць чалавекам слова, гонару і справядлівасці. Таму ніхто ў цывілізаваным свеце ні на хвіліну не засумняваўся ў яго праўдзівасці і прыстойнасці.

“Засумняваліся” толькі некаторыя чыноўнікі з Беларусі. Яны яго затрымалі як падазраваемага і зачынілі.

Гэтая навіна ўскалыхнула ўвесь цывілізаваны свет. Немажліва пералічыць тую колькасць вядомых і шаноўных арганізацый ды постацяў, якія імгненна выступілі з рашучым пратэстам і жорсткім патрабаваннем вызваліць праваабаронцу. Гэта і безліч праваабарончых арганізацыяў, амбасадаў замежных краін, палітычных партый, грамадскіх аб’яднанняў, знакамітых людзей, сярод якіх не толькі былыя і дзеючыя палітыкі, літаратары, журналісты, але нават і лаўрэаты Нобелеўскай прэміі, на якую Алеся Бяляцкага вылучалі двойчы за яго актыўную і несупынную праваабарончую дзейнасць. За дзейнасць, якая ў кожным грамадстве мусіць вітацца і падтрымлівацца.

Нажаль, у нас гэтая дзейнасць не была ўхваленай дзяржаўнымі структурамі. Пасля выбараў 2001-га году, Праваабарончы Цэнтр “Вясна”, які стварыў і якім пятнаццаць гадоў кіраваў Алесь Бяляцкі быў пазбаўлены рэгістрацыі. Спробы зарэгістравацца наноў неаднаразова былі адкінутыя чыноўнікамі. На працоўныя офісы праваабаронцаў, і нават па месцу жыхарства многіх, у тым ліку і Алеся Бяляцкага, неаднаразова прыходзілі зператрусамі. Але нягледзячы на гэтыя і іншыя перашкоды Алесь Бяляцкі заявіў, што праваабаронцы будуць і далей выконваць свае маральныя абавязкі, ідучы за голасам сумлення і непераадольнай прагай справядлівасці.

Многія тады сказалі, што гэтага яму не даруюць.

Сёння ён за кратамі. А хваля салідарнасці з Алесем Бяляцкім нарастае як снежны ком. І не толькі ў тых краінах, дзе людзі не баяцца гаварыць свабодна. І ў Беларусі людзі масава пытаюцца, дзе паставіць свой подпіс пад хадайніцтвам пра асабістае паручальніцтва за праваабаронцу, прымаючы на сябе пісьмовае абавязальніцтва пра тое, што Алесь Бяляцкі, калі будзе знаходзіцца на свабодзе, не схаваецца ад следства і суду. І яны не баяцца паміліцца. Бо бачаць у ім тую постаць, якой можна верыць. А тыя, па чыім рашэнні Алесь Бяляцкі ўтрымліваецца пад вартай, хай падумаюць пра гэта.

*Віктар Сазонаў*

## *Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на жнівень 2011 году*

1 жніўня, 90 гадоў таму (1921) – У в. Пудзіна (Навагрудзкі р-н) нарадзіўся Уладзімір Урбановіч, беларускі краязнавец, пэдагог, культуроляг.

4 жніўня, 10 гадоў таму (2001) – У Менску памёр Вячаслаў Адамчык, беларускі пісьменьнік. Нараджэнец в. Варакомшчына (Дзятлаўскі р-н). Пахаваны на менскіх Кальварыйскіх могілках.

5 жніўня, 550 гадоў таму (1461) – У Кракаве нарадзіўся Аляксандар, вялікі князь ВКЛ у 1492-1506 гг.

145 гадоў таму (1886) – У в. Дакудава (Лідзкі р-н) нарадзіўся Браніслаў Ямант, беларуска-польскі мастак, пэдагог.

8 жніўня, 35 гадоў таму (1976) – У г. Глен Спэй (ЗША) памёр Мікалай Лапіцкі, праваслаўны сьвятар, рэлігійна-грамадзкі дзеяч беларускага замежжа. Жыў і працаваў у Ашмяне.

9 жніўня, 155 гадоў таму (1856) – Памёр Фларыян Бохвіц, асьветнік, філёсаф, пісьменьнік. Пахаваны ў в. Дарава (Ляхавіцкі р-н). Нараджэнец Міра (Карэліцкі р-н).

10 жніўня, 215 гадоў таму (1796) – У в. Малая Капліца (Гарадзенскі р-н) нарадзіўся Ігнат Легатовіч, беларуска-польскі паэт, педагог.

13 жніўня, 100 гадоў таму (1911) – У в. Малышкаўшчына (Ашмянскі р-н) нарадзіўся Вінцэнт Склубоўскі, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, актывіст ТБШ, пасьля другой сусьветнай вайны дзеіў на Беласточчыне.

14 жніўня, 70 гадоў таму (1941) – У Асьвенціме загінуў Максіміліян Кольбэ, рымска-каталіцкі дзеяч, які ахвяраваў жыцьцём за іншага чалавека. У 1922-27 служыў у Гарадзенскім кляштары францішканцаў. Пазьней кананізаваны.

15 жніўня, 290 гадоў таму (1721) – Памёр Крыштап Станіслаў Завіша, пісьменьнік-мемуарыст, перакладнік, аратар, дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага.

180 гадоў таму (1831) – У в. Селішча (Карэліцкі р-н) нарадзіўся (паводле інш. зьв. 15 чэрв.) Вінцэсь Каратынскі, беларуска-польскі паэт, публіцыст, перакладнік.

18 жніўня, 120 гадоў таму (1891) – У в. Баброўня (Гарадзенскі р-н) нарадзіўся Макар Краўцоў (сапр. Макар Касьцевіч, загінуў у Беластоку ў зьняволеньні ў сьнеж. 1939), беларускі паэт, пісьменьнік, удзельнік Слуцкага паўстаньня.

20 жніўня, 505 гадоў таму (1506) – Памёр Аляксандар Ягелончык, вялікі князь ВКЛ у 1492-1506 гг. Пахаваны ў Вільні.

22 жніўня, 95 гадоў таму (1916) – Нямецкія войскі каля в. Белая (Смургонскі р-н) прымянілі хімічную газавую атаку супраць расейскага войска. Загінулі 116 чалавек.

24 жніўня, 105 гадоў таму (1906) – У фальв. Баўдыры (Смургонскі р-н) нарадзіўся Юльян Саковіч, дзеяч беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, актывіст ТБШ і КПЗБ, Беларускай народнай самапомачы.

25 гадоў таму (1986) – У Гародні прайшоў першы Дзень народнага майстра.

25 жніўня, 20 гадоў таму (1991) – Вярхоўны Савет БССР надаў "Дэклярацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР"канстытуцыйны статус і прыпыніў дзейнасьць КПБ.

20 гадоў таму (1991) – У Чыкага памёр Вацлаў Пануцэвіч (у эміграцыі Пануцэвіч), беларускі грамадзкі дзеяч, гісторык, дзеяч эміграцыі (Нямеччына, ЗША). Нараджэнец в. Малая Альшанка (Гарадзенскі р-н).

26 жніўня, 150 гадоў таму (1861) – У Гародні прайшла рэлігійна-палітычная маніфэстацыя на чале з ксяндзом Юзафам Маеўскім супраць расейскай акупацыйнай палітыкі.

27 жніўня, 105 гадоў таму (1906) – У в. Лявонавічы (Нясьвіжскі р-н) нарадзіўся Сяргей Новік-Пяюн, беларускі паэт і пісьменьнік. З 1931 да 1945 жыў у Слоніме.

29 жніўня, 255 гадоў таму (1756) –У мяст. Жнін (Гнезьненскае ваяв., Польшча) нарадзіўся Ян Сьнядэцкі, астраном, матэматык, філёзаф, асьветнік Рэчы Паспалітай. Сямейны маёнтак і пахавальная капліца былі ў Гародніках (Гарадках, Ашмянскі р-н).

31 жніўня, 15 гадоў таму (1996) – Памёр Пятрусь Макаль, беларускі літаратар. Вучыўся і працаваў у Гародні.



***Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па Гарадзеншчыне вы можаце атрымаць на сайце***

**www.harodniaspring.org**

***Праваабарончую інфармацыю па ўсёй Беларусі вы можаце атрымаць на сайце***

**www.spring96.org**


Гарадзенскі праваабарончы
інфармацыйна-аналітычны
бюлетэнь «Прэзумпцыя»
выходзіць 1 раз у месяц
наклад 299 асобнікаў
для нутранога карыстаньня

падрыхтаваны да друку:
чэрвень-ліпень 2011
e-mail:prezumpcyja@gmail.com
распаўсюджваецца задарма
пры передруку спасылка
абавязковая


